Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.
**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукована га залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 18. Вільня, Субота, 14-га сакавіка 1925 г. Год I.

## ГРАМАДЗЯНЕ! дамагайцеся для сваіх дзетак роднай беларускай школы!

**У гэтым нумары 6 страніц.**

## У каламутнай вадзе.

Ніжэй мы падаем нязвычайна важныя для дзяржаўнага жыцьця Польшчы ведамасьці аб кампрамісе, які наладжваецца паміж Нямеччынай і Антантай—*коштам Польшчы*, як зусім шчыра кажа англійская газэта „Times". Польшчы зусім выразна пагражае „папраўка" яе заходніх граніц — на карысьць Нямеччыны, за што апошняя згаджаецца засесьці за стол у Лізе Народаў на роўных правох з Англіяй і Францыяй.

У такі мамэнт, здавалася-бы, усе сілы грамадзянства павінны быць пакіраваны на тое, каб унутры дзяржавы быў лад і супакой, ды „грамадзкая згода", а такжа на тое, каб забясьпечыцца і ад усялякіх пагрозаў на Усходзе. Кажам: здавалася-бы,—бо ж на дзеле ў Польскай дзяржаве дзеецца нешта *зусім процілежнае*.

Ня кажучы ўжо аб фатальнай агульнай нацыянальнай палітыцы, мы лічым патрэбным адзначыць асабліва характэрныя праявы, якія за апошнія часы мелі і маюць месца ўсё на тэй-жа гарамычнай беларускай тэрыторыі.

На адным з апошніх паседжаньняў адміністрацыйнае камісіі Сойму дэп. Кордовскі (паляк!) заінтэрпэляваў у вельмі вострай форме міністра ўнутраных спраў аб дзеяльнасьці на тэрыторыі Піншчыны, Косаўшчыны і другіх пагранічных паветаў Заходняе Беларусі—*агентаў расейскае манархічнае арміі генарала Врангеля*. Гэтыя „молодцы", працуючы—паводле заявы дэп. Кордовскага — у *самай цеснай сувязі з польскай адміністрацыяй*, з аднаго боку—стараюцца набіраць ахвотнікаў у врангелеўскую армію, з другога—*правакуюць беларускую сялянскую моладзь*, намаўляюы яе запісвацца ў паўстанскія (проці Польшчы!) дружыны і... даносячы пасьля на такіх „паўстанцаў" польскай уладзе...

Адміністрацыйная камісія была гэтак абурана такой дзеяльнасьцяй расейскіх манархістаў і становішчам польскае адміністрацыі, што востра патрэбавала ад міністра ўнутр. спраў, каб вытлумачыўся перад камісіяй. Міністар на чароднае паседжаньне камісіі прыслаў „тлумачэньне", але такое, што яно толькі ўзьвялічыла абурэньне сяброў камісіі, і апошняя прызнала тлумачэньні п. Міністра нічога не выясьняючымі, ды зажадала *новых тлумачэньняў*...

Раз гэтая абураючая справа ўжо паднята ў Сойме, дык мы ня будзем тут даўжэй затрымлівацца над ёй з пункту гледжаньня інтарэсаў польскае дзяржаўнасьці ў гэты *востры палітычны мамэнт*. Але мы ня можам моўчкі прайсьці міма лішне ўжо яркай і абураючай ролі, якую *расейская рэакцыйная эміграцыя іграе на нашай зямлі*. Гэтыя недабіткі царскага чынавенства запаўняюць польскую дэфэнзыву і, карыстаючыся сваім службовым становішчам, вядуць самую *непрымірымую барацьбу з беларускім насяленьнем*. Яны запапанілі і такую ўстанову, як праваслаўная царква, праваслаўныя духоўныя сэмінарыі і т. п., ды тамака займаюцца тым-жа, а іменна *стараюцца выкідаць зусім усё беларускае і замяняць — польшчынай*. Урэшце яны, як сьцьвярджае дэп. Кордовскі, займаюцца самым нягодным відам *правакацыі ў адносінах да беларускага насяленьня*, цяжка пакрыўджанага дзяржавай і затым лёгка падпадаючага пад уплывы правакатараў, якія лоўка іграюць на настроях масаў, каб сваей правакацыяй *вылаўліваць найбольш жывыя элемэнты з вёскі і вырываць іх з сялянскае гушчы*, аспабляючы сілы нашага народу, так патрэбныя ў гэты мамэнт дзеля барацьбы за сваю нацыянальнасьць, сваю культуру, мову, школу.

Беларусы! Сьцеражыцеся гэтых ваўкоў у авечай скуры!

## Коштам Усходу.

Перад сэсіяй Рады Лігі Народаў, на якой павінен быў аканчальна быць пахаваны так-званы „жэнеўскі пратакол", што імкнуўся захаваць на векі вякоў „Вэрсальскі лад" у Эўропе, немцы зьвярнуліся да Англіі і Францыі з прапазіцыяй, што яны гатовы ўвайсьці ў склад Лігі і ўзяць на сябе абавязак бараніць сучасны тэрыторыяльны лад Эўропы (граніцы новых дзяржаў), але толькі на Захадзе ад Нямеччыны, не на Усходзе.

Нямеччына прызнае ненармальнымі граніцы Францыі і Бэльгіі, але не прызнае, бо й ня можа прызнаць, забіваючых яе граніцаў на ўсходзе, а перад усім з Польшай.

Дык вось, гэтыя граніцы з Польшчай саюзьнікі павінны дазволіць Нямеччыне „напраўляць мірным шляхам перагавораў з адноснымі дзяржавамі", а перад усім з самой Польшчай.

Справа ў першы чарод ідзе аб Гданскі Калідор і бераг мора, што разразаюць Нямецкую дзяржаву на дзьве часткі.

Саюзьнікі, а нават Францыя, атрымаўшы гэтую прапазіцыю, некалькі тыдняў трымалі яе ў сакрэце ад Польшчы.

Калі вестка гэтая нарэшце дайшла да Польшчы, польскае грамадзянства, Сойм і Урад—аж аслупелі ад зьдзіўленьня, якое перайшло ў абурэньне, а пасьля — у „нязломную волю" — працівіцца ўсемі сіламі — да збройнага апору ўключна — гэтаму новаму „падзелу Польшчы".

На гістарычным паседжаньні Сойм польска-жыдоўскай большасьцю—прыняў пастанову — рашучага пратэсту і — закліку да ўраду, каб учыніў належныя крокі дзеля падрыхтоўкі ўсяго народу да магчымай вайны.

Тым часам нямецкі ўрад спакойна зьвярнуўся беспасрэдна да Польскага з тэй-жа прапазіцыяй—урэгуляваць „спорныя граніцы". Як-жа яны адносяцца да „правакацыйнай" прапазіцыі Нямеччыны сучасныя валадыры Эўропы—Англія і Францыя?

Англія, з якой Нямеччына, як пішуць, паразумелася яшчэ раней, заўсёды прынцыпова стаяла на тым-жа становішчы, у духу якога ідуць нямецкія прапазіцыі: яна рашуча адмаўлялася гарантаваць „бясьпечнасьць Францыі", калі пад гэтымі славамі Францыя разумее і бясьпечнасьць Польшчы — нятыкальнасьць яе граніцаў. Дык вось, Англія стаіць за нямецкі плян і прапазіцыю. Пытаньне толькі ў тым, ці павінен быць створаны гарантыйны дагавор Англіі, Францыі і Нямеччыны бяз Польшчы і без Чэхаславакіі, ці — калі тыя згодзяцца — разам з імі. Тады Нямеччына ўвойдзе ў склад Лігі і дасьць усе патрэбныя забавязаньні.

Францыя ў гэтай справе—круціць. З аднаго боку яе кіраўнікі пратэстуюць, „бароняць Польшчу", заклікаюць і правакуюць яе да рашучага, мо' і аружнага адпору. З другога-ж боку, як пішуць з Лёндона, Францыя кажа, што магла-б дамагацца ад Польшчы згодлівага становішча і кампрамісу ў справах, датыкаючых Гданску з „калідорам" і іншых гранічных пытаньняў (Сьлёнску...), але перад тым трэба, каб Польшчы былі загарантавана і забясьпечана яе тэрыторыя.

Так кажуць у Лёндоне... Ці „выдасьць" Францыя Польшчу? Ці, можа, разам з Польшчай выкарыстае мамэнт яшчэ няпоўнай сілы Нямеччыны і — запаліць новы эўрапэйскі пажар—бо вайна Польшчы з Нямеччынай у адну хвіліну ахапіла-бы ўвесь Вэрсальскі гмах Эўропы, а мо' перакінулася-бы і ў Азію ды Афрыку?..

Трэба думаць, што, ня гледзячы на ганаровыя забавязаньні, дагаворы і саюзы з Польшчай, Францыя „парадзіць" ёй—пад магутным націскам Англіі—уступіць.

А што-ж нам, беларусам, дасьць гэтая „ўступка" Польшчы на Захадзе, калі да яе прымусяць Польшчу яе вялікадзяржаўныя прыяцелі і непрыяцелі?..

Ох, нам, бедным Макарам, нічога добрага ня суліць гэтае паражэньне Польшчы на Захадзе. Бо-ж, зразумела, што, калі Польшча, пабачыўшы, што няма іншага выхаду, урэшце, пазваніўшы шабляй, уступіць на Захадзе, дык за гэта ўжо пэўна-ж выгаварыць сабе ўсялякія „гарантыі" і яшчэ больш „вольныя рукі" на сваім Усходзе.

Праўду казаў п. міністар Скшыньскі, адказываючы беларусам і ўкраінцам у Сойме: няма для нас послуху, няма спагадлівага рэзанансу на „дзяржаўнамысьлячым Захадзе".

А пасярод гэтых двух ваўкоў: правакуючага Захаду і пагражаючага Усходу стаіць „двудушная" Польшча, сама яшчэ добра ня ведаючы, якая яе душа—запраўдная...

**В.**

## Прамова дэпутата Ф. Ярэміча

*на паседжаньні Сойму 3. III. 1925 г. ў справе ўставу аб вечах.*

Высокая Палата!

Колькі тыдняў назад мы адбывалі ў адміністрацыйнай камісіі нарады аб увядзеньні выняткoвага стану. Тады прадстаўнікі Ураду, паны міністры Тугутт і Ратайскі, заявілі з усім націскам, што выняткoвы стан на „Крэсах" сяньня непатрэбны, што яны маюць паддастаткам спосабаў дзеля ўтрыманьня тамака ладу.

Праўда, аўтара гэтае прапазіцыі мо' найбольш пераканала тое, што п. міністар Тугутт заявіў, што гэта адбілася-бы блага для Польшчы—заграніцай. І, праўда, падобна гэта найбольш трапіла да перакананьня гэных паноў, што ня вельмі настаівалі на ўвядзень-

ні вынятковага стану. Затое тутака, у гэтай Высокай Палаце, некаторыя з паноў сулілі Ураду ўсялякія спосабы дзеля таго, каб ён мог чым-больш тэрарызаваць насяленьне дзеля ўтрыманьня ладу. І былі гэта — калі можна так выразіцца — выперадкі: адзін перад другім падавалі ўсялякія магчымасьці і ўсялякія магчымыя спосабы, каб задушыць некаторыя непажаданыя праявы, — праявы, якія сяньня ўжо праўды прынялі шырокія разьмеры. І вось мы бачым справаздачу адміністрацыйнае камісіі і пададзеныя рэзалюцыі, — а іменна бачым, што дэпутат Зьвежыньскі і яго таварышы запрапанавалі завясьці кругавую адказнасьць. У пункце 1-а стаіць гэткая рэзалюцыя: „Выданьне загадаў, аблягчаючых старостам барацьбу з бандытызмам; даючы магчымасьць спраўнейшага карыстаньня органамі паліцыі і войска, а такжа *прыцягваньня агулу насяленьня да супрацоўніцтва з уладамі і даваньня помачы пацярпеўшым*.

Што знача помач пацярпеўшым? Гэта знача, што, калі недзе ў павеце будзе спалены двор, (а як гэны двор мог згарэць? — мо' п. X сам гэта зрабіў!), — дык тады насяленьне ўсяго павету прымушана будзе заплаціць удвая ці ўтрая больш, чым гэты двор каштаваў. Насяленьне, якое жывець у 100 кілямэтрах ад данага двара, будзе прымушана аплачываць гэтыя кошты за ўвесь павет. Такіх рэпрэсіяў беларускія землі яшчэ ня бачылі!

Далей бачым пункт і, у якім гаворыцца, што ўсіх, хто ня мае польскага абыватэльства, Урад можа *выслаць у глыб дзяржавы*, — а гэта значыць, што, як спаміж беларусаў сяньня ня маюць польскага абыватэльва 99 працантаў, дык Урад мае вольную руку і можа 99% беларусаў дый украінцаў вывазіць сабе ў канцэнтрацыйныя лагеры.

Далей бачым яшчэ адзін устаў, запрапанаваны Высокай Палаце, — а іменна аб вывазе маемасьці і насяленьня з загрожаных тэрыторыяў. Гэта значыць, што ў адну пекную раніцу можна ўсё вывязьці з „Крэсаў" і пакінуць тамака пустыню.

Гэтулькі ўжо мае Урад у сваіх руках рэпрэсіяў для беларускага і ўкраінскага насяленьня, што ўкраінскі ці беларускі люд на так-званых „Крэсах" скручаны вяроўкамі. Але п. міністру ўнутраных спраў было мала гэтага, бо п. міністар сказаў, што ёсьць яшчэ грамадзяне, якіх гэтыя рэпрэсіі ня могуць дасягнуць, а гэта — дэпутаты, гэта — прадстаўнікі гэнага люду. І п. міністар пастанавіў, каб тыя вяроўкі дасягнулі і гэтых дэпутатаў, каб не маглі падтрымліваць зносінаў і не маглі казаць сваім выбаршчыкам, што дзеецца ў Сойме і якую барацьбу яны тамака вядуць. Чуў я, праўда, што ўзьнялося нават нейкае недаразуменьне ў Урадзе, што паны міністры былі пасварыліся, — ды пагадзіліся на нашай скуры, бо пагадзіліся на тым, што падалі Высокай Палаце ўстаў аб вечах, скліканых дэпутатамі і сэнатарамі. У гэтым уставе арт. 2 гавора:

„Вечы гэныя звольнены ад абавязку атрымліваньня дазволаў, прадугледжаных у абязываючых уставах аб вечах. Яны мусяць быць толькі мэльдаваны ў належнай адміністацыйнай улады прынамся за 24 гадзіны да адбыцьця веча".

Я не разумею тутака слова „мэльдаваны". У каго маюць быць мэльдаваны: ці ў старосты, ці ў ваяводы, — асабіста, ці мо' трэба паведамляць на пісьме, ці эвэнтуальна тэлеграфна? Што датычыцца 24 гадзін, дык пытаюся: дзеля чаго гэта? Ці затым, каб п. староста мог сабе зрабіць нараду ў працягу гэтых 24 гадзін і з'арганізаваць банды, якія нападаюць на дэпутатаў, як гэта сталася ў Пружанах? Іншае прычыны я ня бачу.

Арт. 3 кажа аб тым, што Рада Міністраў можа прыпыніць гэты ўстаў, але ня больш, як на працяг трох месяцаў. Вось-жа, панове, на дзеле, калі дагэтуль п. ваявода Янушайтіс выдаваў аб гэтым абвяшчэньне адно на цэлы год, дык цяпер выдавацімець чатыры такія абвяшчэньні, ды гэтак уся справа будзе ўладжана, і гэтым самым дэпутаты ўвесь год ня будуць мець магчымасьці склікаць справаздаўчыя вечы.

П. міністар Ратайскі зрабіў тут некаторую юрыдычную нацяжку і казаў, што тыя прывілеі, якія існавалі для дэпутатаў Устаноўчага Сойму, не адносяцца да цяперашняга Сойму, хаця п. міністар гаварыў, што ён асабіста не згаджаецца з гэтым, але паны рэфэрэнты так зрэфэравалі, дык дзеля гэтага ён выдаў і падпісаў гэны цыркуляр. Вось-жа, пане міністру, уся бяда ў тым, што ў міністэрстве ўнутраных спраў гаспадараць ня міністры, а рэфэрэнты. Я ўжо меў нагоду з гэтае высокае трыбуны аб гэтым гаварыць. А цяпер, калі п. міністар пазываўся на тое, што існавалі расейскія ўставы, — дык я ведаю, што расейскім міністэрствам унутраных спраў быў выданы ўстаў, што „говорить по польски воспрещается". На „Усходніх Крэсах" існаваў і такі ўстаў, аднак-жа гэтага ўставу п. міністар сваім загадам не скасаваў. Ведаем яшчэ, што па сёньняшні дзень не скасаваны і абязывае ўстаў першага тому расейскага „Свода Законовъ", што каталіцкія парахвіі абязаны ўрадаваць і весьці карэспандэнцыю між сабой у расейскай мове. І гэткіх уставаў пан міністар не касуе, але гэты ўстаў (аб вечах) п. міністар адкапаў і кажа, што ён абязывае, ды на гэтай падставе выдаў свой загад. Гэта адна рэч. А другое, калі п. міністар склікае сёньня міжымістэрыяльную канфэрэнцыю, каб скасаваць тыя загады і ўставы, якія па сёньняшні дзень абязываюць, ды якія выданы былі нават прыфрантовымі камандантамі, генаральным камісарам Асмалоўскім, глаўнакамандуючым Сярэдняе Літвы ген. Жэлігоўскім, — дык, пане міністру, які сэнс мае гэтая камісія, як п. міністар будзе цягнуць да адказнасьці людзей, што сёньня адвольна ўрадуюць на падставе гэных рознародных загадаў і ўставаў, — калі іменна сам п. міністар выдае сваё абвяшчэньне на падставе загаду ген. камісара цывільнага ўпраўленьня, п. Асмалоўскага?

Вось-жа, панове, калі гэта йдзе зьверху, з цэнтру, дык запраўды апрача юрыдычнае, праўнае нацяжкі ў гэтым абсалютна нічога нямашака. Дык як-жа можна зьнізу цягнуць урадоўцаў да адказнасьці, — урадоўцаў, якія робяць надужыцьці, — калі гэтыя самыя надужыцьці робіць п. міністар унутраных спраў?

Гаварылі йшчэ тутака — здаецца, п. калега Багіньскі, — што п. міністар Ратайскі ўзяў нагайку ды йшчэ з волавам п. міністра Смульскага. Мы не аднаго міністра з нагайкай перажылі і не баімося нагайкі п. міністра Ратайскага — нават з волавам п. міністра Смульскага! Нічога не памогуць пану, пане міністру, ані абвяшчэньні, ані загады, ані стэрорызаваны беларускі народ. П. міністар нічым нам рады ня дасьць, і мы сабе знойдзем дарогу да зносінаў з нашым насяленьнем!

Дзеля таго, што ўвесь гэты ўстаў — супярэчны з канстытуцыяй, пазваляю сабе падаць прапазіцыю: „Сойм праходзе да парадку дня па-над уставам аб вечах, скліканых сябрамі Законадаўчых Палат, як нязгодным з канстытуцыяй".

---

ГРАМАДЗЯНЕ! Пасьпяшыце да 31 сакавіка (марта) гэтага году падаць праз паўнамоцнікаў Школьнаму Інспэктару дэкляраціі, засьведчаныя войтам аб тым, што вы жадаеце, каб у вашай школе навука выкладалася ў беларускай мове.

---

**Ад. Станкевіч.**

# Доктар Францішак Скарына — першы друкар беларускі.

## (1525—1925).

### V. Скарынаўскія друкі ў Празе і іх асаблівасьці.

У Празе, як мы ўжо гаварылі вышэй, Фр. Скарына заняўся друкаваньнем беларускіх кніжак. У часе між 1517—1519 г. і была тут надрукавана **„Библія руска выложена докторомъ Францискомъ Скориною изъ славнаго града Полоцка, Богу ко чти и людемъ посполитымъ къ доброму поученію"**. Пад гэткім загалоўкам Бібліі ведамы 22 кнігі Старога Закону.

Вось гэтыя кнігі: 1) Книга Іова, 2) Притчи Соломоновы, 3) Книга Премудрости Іисуса, Сына Сирахова, 4) Книга Екклезіаста, 5) Книга Пѣсни Пѣсней Соломоновых, 6) Книга Премудрости Соломоновы, 7—10) Книги Царствъ, 11) Книга Іисуса Навина, 12) Книга Іудиѳь, 13) Книга Бытіе, 14) Книга Ісход, 15) Книга Левитъ, 16) Книга Числъ, 17) Книга Второзаконие, 18) Книга Руѳь, 19) Книга Судей Израилевыхъ, 20) Книга Есѳирь, 21) Книга Плачъ Іеремія, 22) Книга Пророка Даніила.

У выдавецка-літэратурвай працы ў Празе Скарына карыстаўся рукапіснымі кнігамі краёвымі, друкамі Фіоля, друкаванай Бібліяй чэшскай з 1506 г. і Бібліяй лацінскай, а так-жа ўжо значна разьвіўшыміся друкамі нямецкімі. Усе гэтыя рукапісы і друкі былі з розных бакоў патрэбны Скарыне.

Краёвыя рукапісныя біблейскія кнігі былі патрэбны Скарыне падвойна. Яны далі аснову для пераводу на беларускую мову, а так жа паслужылі разам і паказчыкам тых межаў у карыстаньні чужымі друкамі, за якія ісьці нельга, каб не адарвацца ад роднага грунту.

Із стара-славянскіх біблейскіх кніг у Скарыны пад рукой былі бадай усе, за выняткам кнігі „Премудрость Соломона", „Іудиѳь", „Есѳирь", і „Пѣсни Пѣсней". З тэксту гэтых Скарынаўскіх кніг відаць найбольшая залежнасьць ад Бібліі Чэскай.

Краёвыя рукапісы, а так-жа і друкі Фіоля далі Скарыне ўзоры для літараў яго друкарні ў Празе. Трэба ведаць, што наагул першадрукі дужа цесна зьвязаны з папярэдзіўшымі іх рукапісамі, што да літараў. Узорам дзеля выразу літараў заўсёды служылі літары ў рукапісах. Якімі літарамі дзе пісалі, такой-жа формы рабілі літары да друкаваньня, каторыя часта да таго бывалі падобныя да рукапісных, што на першы пагляд іх можна прыняць за рукапісныя. Так было з літарамі першадрукаў лацінскіх, нямецкіх, францускіх і, разумеецца, славянскіх, з пасярод якіх вялікім падабенствам да рукапісаў адмячаюцца прадусім кнігі немца Фіоля.

Дык нешта падобнае трэба адзначыць і аб літарах Скарыны. Праўда, скарынаўскія літары прадстаўляюць зьявішча складзенае, як па разьмеры, так і па форме: яны не з аднаго якога ўзору, але ўсё-ж літары Скарыны носяць на сабе выразны сьлед літараў рукапісных беларускіх актаў XVI ст., з тэй толькі розьніцай, што куды ад іх правільнейшыя, маюць іншы разьмер, а так-жа некаторыя літары і іх упрыгожаньні маюць нямала падабенства да чэскіх і нямецкіх.

Апрача гэтага, рукапісныя краёвыя кнігі далі Скарыне правапіс, кірылаўскую нумарацыю і застаўкі.

Ня мінуў Скарына і друкаў Фіоля, каб не скарыстаць з іх. Некаторыя падабенствы між друкамі Скарыны і Фіоля сьведчаць аб гэтым.

У выданьнях Фіоля спатыкаецца спроба нумарацыі па лістох, а Скарына гэту спробу прыняў за аснову і ўжо ў яго кнігах спатыкаем усе лісты нумараваныя кірылаўскімі літарамі. Разьмер літараў агулам, а асабліва некаторых літараў вялікіх, у Скарыны той-жа, што і ў Фіоля.

З усіх стара-славянскіх выданьняў толькі ў Фіоля і Скарыны ў канцы кожнага аддзелу і асобнага загалоўка знаць друк пункру з рыскай. (:—)

Выданьні Скарыны ў сэнсе друкарскім перавышаюць усе папярэднія стара-славянскія друкі.

Выданьні Скарыны ў штуцы друкарскай зьяўляюцца лепшымі ад нямецкіх і вэнецыянскіх пачатку XVI ст.

З Бібліі чэшскай Скарына браў прыклад, як можна выражацца агулам жывой мовай, а дзеля гэтага нямала ён браў з яе чэшскіх слоў, выражэньняў, а нават і цэлых зваротаў.

Біблія лацінская (wulgata) і нямецкая служылі Скарыне бадай выключна прыкладам друкарскай штукі.

Разьмер усіх пражскіх кніг Скарыны невялікі: у 4° (у чацьвертку). Дык і сам ён іх заве **„малыми книжыцами"**.

Папера ў выданьнях Скарыны маець вадзяныя знакі, як напр.: бычачая галава, крыж чатырох-канечны і інш. Гэткія знакі спатыкаюцца ў некаторых нямецкіх выданьнях з 1481—1523 г.

Першы загалоўны ліст кожнай кніжкі Скарыны абазначаны кірылаўскай літарай „аз", прыбраны гравюрай, пад якой зьмяшчаецца загаловак кнігі з паказаньнем на пераклад кнігі Скарынай з Полацка. Усё гэта надрукавана загалоўнымі літарамі і хараша ўбрана.

Ёсьць так-жа ў пражскіх выданьнях Скарыны многа заставак. Род свой яны вядуць ад славянскіх рукапісных і друкаваных выданьняў. Застаўкі Скарыны былі вялікія, з чалавечымі фігурамі і з гэрбам Скарыны, прадстаўляючым сонца, прыкрытае месяцам у сярэдзіне, і застаўкі малыя, як лінейкі з белымі рысункамі на чорным фоне з красак і лісьця.

Накaнец успомнім аб найбольш цікавай асаблівасьці пражскіх выданьняў Скарыны — аб гравюрах, прадстаўляючых розныя біблейскія сцэны. З стара-славянскіх кніг толькі „Октоіх" Фіоля мае адну гравюру Укрыжаваньня. І сам звычай і работа ўзяты ад немцаў. Мэту гэтых гравюр паясьняе сам Скарына гэтак: **„Кто-бы какъ межи простыми людми братии моеи хотелъ яснее разумети якобымъ обычаемъ былъ храмъ оддѣланъ Кивотъ, Столъ, Требникъ и Ризы жречесние, тое все вымалеваное нижеи знайдеть"**. (Ісход, 4 б).

А ў другім мейсцы Скарына аб гэтым так

# Заграніцай.

## Адчыненьне сэсіі Рады Лігі Народаў.

9 сакавіка адчынілася—пад старшынствам Чэмбэрлена—33-яя сэсія Рады Лігі Народаў. З прычыны спазьненьня прадстаўніка Бэльгіі Юманса ніякіх важных справаў Рада не разглядала.

## Сэнсацыйная вестка.

Польскія газэты друкуюць—быццам з Бэрліну — сэнсацыйную вестку аб новай прапазіцыі Нямеччыны польскаму ўраду.—Нямецкі ўрад быццам — за Гданскі калідор і Памор'е, якія Польшча аддала-б назад Нямеччыне, пакідае Польшчы... „вольную руку" ў Літве, ці—над Літвой...

Вельмі цікава было-б запраўды ведаць, дзе сфабрыкавана „ў Бэрліне" гэтая вестка.

Што нечыя зубы на Літву пачалі сьвярбець, відаць аднакжа хаця-б з таго, што літоўскі ўрад сьпешна апрацоўвуе новы закон аб абароне дзяржавы, які-б аблягчыў ураду барацьбу з „анты-дзяржаўнымі элемэнтамі".

Цікава, што польскія газэты з гары ўжо зразумелі, што справа йдзе аб палякох у Літве... (глядзі „Dz. Wil." № 57). Да рэчы будзе дадаць тут-жа аб тым, што арыштаваным нядаўна 6 палякам пададзены акт абвінавачаньня, які закідае ім шпіёнства на карысьць Польшчы. Усе абвінавачаныя адданы пад ваенны суд.

## Канфлікт Літвы з Ватыканам.

З Коўна паведамляюць, што па ўсім краю выклікала вялікае абурэньне вестка аб заключэньні канкардату Польшчы з Рымскім Папай, які прызнаў у гэтым акце факт далучэньня Вільні да Польшчы.

Студэнты зрабілі ў Коўне мітынг пратэсту, на якім прынялі рэзкую рэзалюцыю, каб урад зараз-жа сарваў дыпляматычныя зносіны з Ватыканам і нават выслаў з Літвы панскага нунцыя (дэлегата). У гэткім жа сэнсе высказаўся і орган урадавай партыі—хрысьціянскай дэмакратыі.

З гэтага можна спадзявацца, што ўрад у хуткім часе выступіць з нотай пратэсту па адрасу Ватыкану, а можа і запраўды парве зносіны з Рымам.

## Чым паб'е Нямеччына пераможцаў?

У ангельскай прэсе—паніка. Амэрыка аддала 5 ваенных караблёў дзеля рамонту ў нямецкія докі...

Дагэтуль англійскія докі лічыліся першымі докамі ў сьвеце і канкурэнцыя з імі была немагчыма. І вось нямецкія фірмы ня толькі ўзялі таньней за англійскія, але датаго яшчэ абязаліся зрабіць усю работу на 4 месяцы хутчэй!

У выніку гэтай новай сфэры канкурэнцыі Нямеччыны з Англіяй безрабоцьце — галоўны біч сучаснай Англіі—у апошняй павялічыцца яшчэ больш. Калі гэтак пойдзе далей, дык, можа, прыдзе час, калі Англіі будзе карысьней дазволіць Нямеччыне будаваць сабе ўласны ваенны флёт, чым руйнаваць гэтай канкурэнцыяй свайго пераможцу.

## Заступнік Прэзыдэнта Нямеччыны.

Тымчасовым заступнікам Прэзыдэнта Рэспублікі ўсе партыі Парляманту згадзіліся назначыць старшыню Вярхоўнага Суду Рэспублікі Сімонса. Закон аб гэтым мае ў хуткім часе выдаць Парлямант.

## Забастоўка чугуншчыкаў у Грэцыі.

Чугуншчыкі ў Грэцыі аб'явілі агульную забастоўку.

# Панама у віленскім куратарыуме.

## Пан Гонсёровскі.

У справе грашовых надужыцьцяў, ці, проста кажучы, абкраданьня скарбу ўрадоўцамі найважнейшай „польскай пляцуўкі" на Крэсах—Школьнага куратарыуму нарэшце сказана, калі не апошняе, дык вельмі чаканае ўсімі слова. „Zawieszony" п. Рахальскі падае ў „Kur. Wil." аб „niezawieszonym" чамусь па сёньняшні дзень начальніку сваім, п. Гонсёровскім, гэткія рэвэляцыі.

„Грашовыя справы вырашаў куратар выключна з Пожэрскім (сядзіць, як „стрэлачнік", чакаючы на „вышэйшую" кампанію, на Лукішках... *Рэд*), абмінаючы маю асобу, і толькі далёкія водгукі аб гэтым даходзілі да мяне ад часу да часу. Напрыклад—улетку 1924 г. куратар узяў сабе пэнсію за 2 месяцы наперад, браў авансы перад атрыманьнем з Варшавы асыгновак. Куратар не зьвярнуў скарбовай палаце грошаў, якія засталіся пасьля зьліквідаваньня ў 1922 г. гімназіі ім. Ягеллы... Гэтыя грошы куратар... пазычыў сабе... (!?) „Куратар браў ад Пожэрскага (сядзіць...) „pewne kwoty" па вустнаму ці нават тэлефоннаму загаду.

„Апрача таго, куратар „sządził" у сваім урадзе і ў школьніцтве зусім самавольна, **ня лічучыся з істнуючымі законамі**, ці з воляй заінтарасаваных асобаў".

Праўду кажа польская народная мудрасьць: „głupi daje — mądry bierze". Але ці запраўды-ж у сфэру гэтай апошняй „мудрасьці" ўваходзіць, каб той, хто „даваў" (бо яму прыказывала начальства), сядзеў у вастрозе, а той, хто „браў" (бо быў як-раз начальствам!) аставаўся ня толькі на волі, але і на службе, а нават, як дагэтуль, лічыўся „апорай культуры і прасьветы" і — узорам і „судзьдзёй маралі" для ўсяго школьніцтва на „Крэсах"?!...

Бо-ж гэты самы п. Гонсёровскі... выдае людзям атэстацыі і кваліфікацыі — ня толькі фаховыя, але і маральныя!..

## Пан Сьвідэрскі.

Як ведама, правай рукой (прынамся ў кіраваньні вокругам) у пана куратара Гонсёровскага зьяўляецца вышэйшы ўрадовец куратарыуму, п. Сьвідэрскі. Аб ролі гэтага пана ў выкрытай панаме мы нічога ня ведаем,—але хіба-ж польскае грамадзянства лепш ведае гэтыя справы, чым мы. Вось-жа нельга абыйсьці моўчкі такое здарэньне.

П. Сьвідэрскі захацеў стацца сябрам польскага „Шляхоцкага Клюбу". Кандыдатуру яго падаў туды, згодна з статутам, адзін з сяброў клюбу — „высокі ўрадовец куратарыуму", як пішуць польскія газэты (ці ня сам п. Гонсёровскі?). Але, калі дайшло да галасаваньня гэтае кандыдатуры, дык сябры Клюбу чуць не аднагалосна закідалі п. Сьвідэрскага „чарнякамі". Гэта—вялікая зьнявага ня толькі для п. Сьвідэрскага, якога прызналі недастойным быць дапушчаным у польскую таварыскую ўстанову, але і для таго „высокага ўрадоўца", які паставіў кандыдатуру п. Сьвідэрскага. Паводле панучага ў „Шляхоцкім Клюбе" звычаю, такі сябра павінен і сам выйсьці з Клюбу, бо адмова прыняць ягонага кандыдата раўназначна з недаверыем, ня толькі да асобы кандыдата, але і да асобы рэкамандаваўшага яго...

## Як яны „ўстраіваюцца".

(*Голас нашага чытача*).

Успамінаюцца мне два выпадкі з 1923 году. Едучы ў вагоне ў цягніку ў Вільню, спаткаў я паню „начальнікову" Сьвідэрскую, каторая ехала также ў Вільню з Вялейкі, дзе была ў нейкай Школе „Powszechnej" на вакацыі. Разам з ёю ехала нейкая другая паня. Вось-жа ў гутарцы паміж імі выявілася, што ўслугуе пані „начальніковай" кіраўнічка гэтай Школы Г. Б. з сваей маткай, і ў гэты дзень п. Сьвідэрская, як сама хвалілася, сваіх дзетак пакінула на руках у гэтай паннасчкі—кіраўнічкі, толькі ня ведала, чы тая добра дзяцей дапільнуе. Тут другая паня пасьпяшла супакоіць клапатлівую матку, што дзеткі пэўне будуць добра дагляжаны, бо „нашы вучыцелькі, амаль што ня ўсе—з кухарак і нянек, дык да такой работы прывычны". Паня Сьвідэрская пацьвярдзіла, што п. **Г. Б. ня надта надаецца на вучыцельку** і т. п.

Зацікаўлены гутаркой, я пастараўся сабраць спраўкі, як гэтая справа запраўды прадстаўляецца, і глаўнае—на якіх правах у гэнай Школе пасялілася сям'я п. Сьвідэрскага, сколькі п. Сьвідэрскі плаце за „letnisko i wywczasy" сваіх дзеток на руках і сьпіне гэтай кіраўнічкі Г. Б. Аказалася, што „wywczasy" каштавалі ня дорага: на 1924 год ужо гэтая „niemająca kwalifikacyj" (паводлуг слоў п. Сьвідэрскай!) кіраўнічка—кваліфікацію атрымала на зайздрасць сваім таваркам...

Другая справа — дык тая, што ў Сьвянцянскай гімназіі ёсьць нейкі дырэктар Чапкевіч Б., каторы ў 1923 годзе „зьвіхнуўся" пры куплі-прадажы самаму сабе сьвіней з вучнёўскага інтэрнату, ды выявілася, што ён хіба працуе адначасна ў палітычнай паліцыі, як гэта прэса зазначала ўжо ня раз, бо намаўляў адкрыта іншых пэдагогаў, на паседжаньні Школьнай Рады ў Сойміку, каб ішлі працаваць у палітычную паліцыю, бо гэта зусім добра можна злучыць з ябавязкамі выхаваўцы-паляка. Знаны ён сваей школьнай сям'і яшчэ і з справы амаральнага выхаваньня вучняў, ды такіх жа адносін да дзяўчат з інтэрнату, аб чым голасна гаварылі ў павеце пэдагогі гімназіі. Ну і што-ж? Усе гэтыя справы добра вядомы былі п. Гонсёровскаму, справа мелася папасьці да пракурора, а даволі было паклапаціца п. Сьвідэрскаму аб Чапкевічу у п. Гонсёровскага, і п. Чапкевічу наняць „letnisko" для п. Гонсёровскага — ту-ж пры Сьвянцянах, і ўся справа заглохла, ды зараз-жа некаторых пэдагогаў „прыструнілі", бо п. Сьвідэрскі корпорацыі „Polonija" і п. Чапкевіч тож.

Вот так „letnisko i wywczasy" памаглі. Нат Т-ва

## VI. Скарынаўскія друкі ў Вільні.

У беларускіх часопісях за 1917 г. дзе-не-дзе можна спаткаць стацьці, пасьвячоныя Фр. Скарыне. У гэты год прыпадала 400-лецьце першага беларускага друку на чужыне — у Празе Чэшскай Фр. Скарына скончыў сваю працу над выданьнем беларускай Бібліі. Сёлета так-жа прыпадае 400 лецьце беларускай кніжкі, але ўжо выданай не на чужыне, а ў сваім краі—у Вільні.

Перабраўшыся з Прагі ў Вільню, Фр. Скарына наладзіў тут сваю друкарню ў Бабіча і ў 1525 г. ў сакавіку месяцы надрукаваў „Апостола".

Больш-менш у гэтым часе выдаў Фр. Скарына і другую кніжку, назваўшы яе „Малая Подорожная Книжица".

Мы ў папярэднім аддзеле даўжэй затрымліваліся над Скарынаўскімі выданьнямі ў Празе, бо сувязь іх з краем і з Беларускім народам, як па свайму празначэньню, так і па мове, зьяўляецца бадай арганічнай. Віленскія выданьні таго вялікага Скарыны — гэта бязумоўна далейшае прадоўжаньне яго пражскіх друкаў, як з боку тэхнічнага, так і ідэйнага.

Падабенства віленскіх выданьняў Скарыны да Пражскіх па літарах і паперы запраўды паказвае на тое, што яны—прадоўжаньне выдавецкай працы Скарыны, толькі перанесенае ў Вільню.

Асаблівасьці віленскіх выданьняў (большая часьць літараў, рысункі і гравюры) паказваюць на тую-ж сувязь з друкарствам нямецкім, што і ў пражскіх.

Па прыгожасьці літараў і рысункаў віленскія выданьні зьяўляюцца так-жа далейшым праектам пражскіх.

І запраўды. Водныя знакі на паперы віленскіх выданьняў Скарыны, між іншым, ёсьць тыя, што і ў пражскіх.

Віленскія выданьні Скарыны, як і пражскія, маюць загалоўны ліст і Кірылаўскую нумарацыю лістоў і падзелены на некалькі асобных кніжак. (Апостол 4 кн., Малая Подорожная кн.—больш за 25 кн.).

Віленскія выданьні Скарыны маюць меншыя літары ў тэксьце, чым пражскія. Пражскія літары тэксту служаць віленскім за літары вялікія.

Спатыкаюцца так-жа і новыя вялікія літары ў віленскіх выданьнях, у рамках.

Спатыкаецца ўрэшце літара С з рысункамі, розная ад пражскіх, падобная да пазьнейшых Заблудаўскіх і Мамонічаўскіх.

Толькі ў віленскіх выданьнях знаходзяцца невялікія гравюры і застаўкі, якія Скарына сам называе „заставицами".

Гэтыя прыкрасы да віленскіх Скарынаўскіх выданьняў цалком падобны да такіх-жа нямецкіх, вэнэцыянскіх і інш. заходня-эўрапэйскіх. Усходняга, візантыйскага ў іх няма нічога.

Пазнаўшы хоць агульна гэты вонкавы бок віленскіх Скарынаўскіх выданьняў, прыгледзімся да іх боку ўнутранага, ідэйнага.

Аб парадку разьмяшчэньня матар'ялу ў „Апостоле" Скарына сам гэтак кажа: **„Доконана есть сия книга зовемая апостолъ, еже замыкаетъ всобе наипервеи деания апостольская. Потомъ посланиеи святыхъ апостолъ, соборныхъ седмъ".**

Віленскі „Апостол" Скарыны — гэта першая друкаваная кніжка на землях беларуска-літоўскіх і агулам на ўсходзе Эўропы.

У аснову Віленскага „Апостола" так-жа, як і ў аснову пражскіх выданьняў, пакладзены тэкст стара-славянскі. Але, ня гледзячы на гэтую аснову, віленскі „Апостол", як і друкі пражскія, мае нямала і чыста беларускага элемэнту. Кожную асобную часьць Апостола Скарына папераджае прадмоваю, аб сабе, аднак, нічога не ўспамінаючы.

Скарына ў пасьляслоўях свой „Апостол" завець „**выкладом**", гэта знача—залічае, як і Біблію, да перакладзеных на беларускую мову, а гэта дзеля таго, што ён незразумелыя для шырокіх народных масаў стара-славянскія і грэцкія словы і выражэньні пераклаў на мову беларускую.

Блізу ўва ўсіх стара-славянскіх тэкстах „Апостола", як рукапісных, так і друкаваных у XVI ст. спатыкаецца многа слоў грэцкіх. У Скарыны ўсе яны заменены беларускімі.

Вось, некаторыя з іх:

| | | |
|---|---|---|
| **скарбом** | **замест:** | **газою,** |
| **чорныи** | „ | **нигер,** |
| **намесникомъ** | „ | **анѳипатомъ,** |
| **владареви** | „ | **игемону,** |
| **ставитель** | „ | **архитектонъ,** |
| **мовцею** | „ | **ритором.** |

Нямала так-жа ёсьць у „Апостоле" слоў і выражэньняў стара-славянскіх, так-жа замененых беларускімі.

Меў так-жа пад рукой Скарына, друкуючы „Апостола", і тэкст чэшскі, бо ёсьць у ім, як і ў Бібліі, чэшскія словы і цэлыя выражэньні.

Апрача „Апостола", выдаў Скарына ў Вільні, як мы ўжо ўспаміналі, „Малую Подорожную Книжицу". У склад гэтай кніжыцы ўваходзяць: **„Псалтырь зуполная, Часословецъ, Акаѳісты и Каноны, Шестоденецъ краткии, Светъци краткие и посхалия на много лѣта".**

Гэтая пятая складовая часьць кніжыцы „Пасхалія" да сяньня няведамая. А дзеля гэтага няведамы і год выданьня „Падарожнай Кніжыцы". З Пасхаліі можна было-б дабіцца акуратнага часу выданьня кніжыцы. Але ўсё-ж гэты час прыпадае больш-менш так-жа на 1525 г.

Адкуль такі назоў? Магчыма — адгэтуль. У час спыненьня Скарыной у Празе друкарскай дзяльнасьці (1519—1520), у Вэнэцыі паявіліся тры новыя стара-славянскія кніжкі: „Служебник", „Псалтыр" и „Молітвослов" вядомага баўгара-сэрбскага друкара Божыдара Вуковіча. Скарына, відаць, быў з гэтымі выданьнямі знаёмы, а асабліва з Малітвасловам. Гэты Малітваслоў дужа нам прыпамінае „Малую Подорожную книжицу". У пасьляслоўі да Малітваслова Вуковіч між іншым кажа, што яго можна нават браць з сабой у дарогу. Скарына свайей кніжыцы надаў характар кніжкі да набажэнства для шырокіх масаў. Відаць гэта як з самога складу яе, так і з назову.

Псалтыр, што ўвайшоў у склад „Малой Подорожнай Книжицы", дужа мала чым розьніцца ад пражскага. Не гаворачы ўжо аб іншых літарах, аб іншым правапісе некаторых літараў, у Віленскім Псалтыры Скарына прапусьціў „Главы на

Вучыцялёў Сэрэдніх і Вышэйшых Школ ня можа выключыць з сваіх радоў такога пэдагога Чапкевіча, бо мела бы расправу з п. Сьвідэрскім.

Гэта толькі драбніцы з гаспадаркі, а сколькі спраў яшчэ бы адкрылася, каб нейкая магутная Камісія паклікала Грамадзян адкрыць іншыя сакрэты з гэтай гаспадаркі. **Т—шы.**

## „Маральнасьць“ у віленскім школьным вокрузе.

Ня дзіва, што пры такіх „начальніках“ нават эндэцкая „Gaz. Warsz.“ малюе самымі панурымі фарбамі стан маральнасьці польскіх школ. Вось што піша ў № 54 „Gaz. Warsz.“ ксёндз Леопольд Аўліх:

„З задзіўленьнем прыглядаемся, як вучыцялі часамі не рэагуюць на факты крадзежаў сярод вучняў. Прыкладам, вучань абакраў касьцёл, жыве ў кіраўніка школы, за ўкрадзеныя грошы накупляў розных рэчаў. Вучыцель забірае іх у яго, перахоўвае ў сябе і ня ведае, што з імі трэба зрабіць. — Дзеці ў клясе жаляцца на крадзежы, а вучыцель абмяжоўваецца спакойным запытаньнем: хто ўкраў? І гэтае пытаньне вычэрпывае справу. Дзеці прывыкаюць да фактаў владзейства, як да нечага няўхільнага... Або, прыкладам, вучань ашуківае другіх, лжэць, як наняты, напіваецца за ўкрадзеныя ў сваякоў грошы,—а вучыцель маўчыць“....

Ня дзіва, — скажам ад сябе. Бо, калі польская школа ў Заходняй Беларусі мае на мэце не прасьвету і падняцьце культуры народу, а толькі павінна перарабляць беларусаў у палякоў і ўсемі спосабамі барацца з беларускай нацыянальнай асьветай, — дык ці-ж могуць гэтую ролю выпаўняць запраўдныя пэдагогі? Ды ніколі! І зусім зразумелая рэч, што ўрад назначае да нас адпаведных дзеля такое ролі куратараў, тыя—інспэктароў, а апошнія—настаўнікаў....

# ХРОНІКА.

**Беларусы — Прэзыдэнту Масарыку.** Беларускае Навуковае Т-ва ў Вільні паслала 7 марца Прэзыдэнту Чэхаславакіі Масарыку гэткую тэлеграму:

„Вялікаму Вучонаму Славяншчыны Першаму Прэзыдэнту братняга нам Чэскага Народу Беларускае Навуковае Таварыства шлець гарачае прывітаньне ў 75 угодкі Яго нарадзін“.

**Прывітаньне з Амэрыкі.** Як нас паведамляюць, беларускія эмігранты ў Амэрыцы, з'арганізаваныя ў Беларускім Нацыянальным Таварystве ў Чыкаго, паслалі прывітаньне беларускім дэпутатам у польскім Сойме за тое, што тыя йдуць поплеч з работніцкімі і сялянскімі працоўнымі масамі.

Тэлеграма канчаецца прывітаньнем палітычным вязьням—беларусам і гэткай заявай:

„Будзьце вытрывалымі і адважнымі! Мы пасьпяшым з маральнай і матэрыяльнай дапамогай!“

**Да сьвяткаваньня Скарынінскага юбілею.** Урадам Бел. Навуковага Т-ва ўложана аканчальна праграма ўрачыстае акадэміі ў 400-ыя ўгодкі закладзінаў першае друкарні ў Вільні беларускім гуманістам Францішкам Скарынай.

Акадэмія адбудзецца 25 сакавіка (марца) ў 8 гадз. вечара ў салі Беларускае Гімназіі (Вострабрамская 9). Парадак дня гэткі: 1) ўступное слова старшыні Бел. Нав. Т ва А. Луцкевіча; 2) прывітальныя прамовы жадаючых; 3) рэфэрат дэпутата Бр. Тарашкевіча на тэму: „Век Скарыны“; 4) рэфэрат дэпутата кс. Ад. Станкевіча: „Жыцьцё і праца Фр. Скарыны“; 5) зачыненьне сходу старшынёй.

Уваход толькі па запросінах. **Беларусы**, якія хацелі-бы атрымаць білеты на ўваход, павінны запісацца загадзя да сяброў Ураду Т-ва, ці ў старшыні „Скарынінскае Сэкцыі“ Т-ва, дырэктара Астроўскага (Беларуская Гімназія).

Хто захоча прамовіць, павінен да пачатку сходу заявіць аб гэтым Старшыні Т-ва.

**„Дзікі данос“.** Пад гэткім загалоўкам „Крывіца“ піша:

У нумары 53 „Słowa“ з 6 сакавіка зьмешчаны дзікі, ды адначасна дурны данос на беларусаў. Што-годняе сьвяткаваньне 25 сакавіка—дня абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, ня гледзячы на аружны разгон бальшавікамі Ўсебеларускага Кангрэсу, які першы паклаў фундамант пад беларускае дзяржаўнае будаўніцтва,—абшарніцкая газэта прыпісывае... загадам Камуністычнае Партыі! Больш таго: „спэцыяльны“ карэспандэнт з пагранічча „даведаўся“, што з гэтым зьвязана і сьвяткаваньне... 400-тых угодкаў адкрыцьця ў Вільні Скарынаўскае друкарні!

Што нейкі малаграматны агент дэфэнзывы мог нешта падобнае **напісаць**, — гэта нікому ня дзіўна. Але рэдактар—інтэлігент, які **друкуе** падобныя бредні,—гэта заведама нясумленны чалавек, якому, відаць, сэрца баліць, што 400 гадоў назад у Вільні першая друкарня заклалася ня польская, а беларуская. І калі п. Вімбор забароніць Беларускаму Навуковаму Т-ву сьвяткаваць Скарынінскі юбілей, дык прынамся будзем ведаць, хто тут „пастараўся“.

Відаць, лаўры п. Обста не даюць спаць п. Мацкевічу, дык ён і пастараўся выказаць сябе такім „добрым патрыётам“.

Пачакаем, ці не напіша яго „карэспандэнт“, што Дзяржынскі загадаў сьвяткаваньне 3 мая?!...

**Падзяка.** Урад Беларускага Навуковага Т-ва шчыра дзякуе за прысланыя ахвяры для музэю ім. Ів. Луцкевіча:

1) грам. **Язэпу Драздовічу** — за 3 альбомы з яго рысункамі;

2) грам. **Ключановічу** ў Пінску—за 3 срэбныя манэты.

**Рэфэрат.** У нядзелю 15. III г. г. а гадз. 3½ п. п. ў салі Беларус. Гім. (Вострабрамская 9), будзе прачытаны п. Р. Астроўскім рэфэрат на тэму: „Космогонічныя гіпотэзы“.

Рэфэрат арганізуецца Ўрадам Бел. Студ. Саюзу. Уваход вольны і бясплатны.

**Спэктакль-Канцэрт.** У суботу 21. III. г. г. праектуецца наладзіць у салі Бел. Гімназіі (Вострабрамская 9) Белар. Студ. Саюзам Спэктакль-Канцэрт. Будзе пастаўляны „Шчасьлівы Муж“, кам. ў 4 акт. п. Ф. Аляхновіча і багаты канцэртны аддзел.

**Упрашчэньне надаваньня „obywatelstwa“.** Міністар унутр. спраў ужо выдаў цыркуляр, на моцы якога надаваць польскае грамадзянства будуць ваяводы, а не міністэрства, як было дагэтуль. Гэтая мера мае мэтай скарачэньне і ўпрашчэньне ўсей працэдуры.

БАЦЬКІ! Не пазьніцеся складаць Школьнаму Інспэктару засьведчаныя войтам дэклярацыі аб жаданьні навучаньня вашых дзетак у беларускай мове, бо тэрмін даны толькі да 31 сакавіка (марца) с. г.

# Карэспандэнцыі.

## „Aroganckie zachowanie się“.

(З *Слонімшчыны*).

Як ужо ведама, вучыцелька беларускае прыватнае школы ў Прудох, Капітанчык, была арыштавана ўладай. У сувязі з гэтым ёй выдадзены цікавы дакумэнт:

Więzienie w Słonimie 20 Lutego 1925 г.
№ akt Sprawy 302,
№ księgi więźniów B. 81.

**Świadectwo o zwolnieniu.**

Więzień Kapitańczyk Nadzieja z Górki, pow. Słonimskiego, skazany wyrokiem Starostwa w Słonimie z dnia 5/II na 7 dni aresztu za aroganckie zachowanie się wobec Starosty.

Naczelnik (podpis)

„Aroganckie zachowanie się“ выявілася ў тым, што Капітанчык адмовілася даць падпіску, якой жадаў Староста, што яна больш ня будзе вучыць у беларускай прыватнай школе.

Сядзела Капітончык разам з крымінальнымі (зладзеямі). У вастрозе страшна сьцюдзена ды вільготна. Апаліваюць у 3 тыдні раз. Пры ёй спалілі адзін раз ня больш, як 5 футаў дроў. Там-жа сядзіць нейкая кабета з дзіцём малым (двутыднёвым). Сушыць пялёнкі пад сабою, цяплом свайго ўласнага цела.

## Беларуская песьня.

(*м. Пінск*).

4-га сакавіка г. г. ў Пінску быў канцэрт вядомай расейскай пясьняркі п. Пляўіцкай. Паміж сваіх песьняў яна прапяяла беларускую „Ці ня дудка мая“. Дык гэтая песьня ў Пінску была вельмі горача вітана рашуча ўсемі прысутнымі.

Астаецца пажадаць, каб п. Плявіцкая на Беларусі больш пяяла беларускіх песьняў. **Ключановіч.**

**Ад Рэдакцыі.** З прычыны масы тэрміновага матар'ялу, а перад усім патрэбы закончыць друк стацьці аб Скарыне да юбілею, сьвяткаванага 25-га марца, мы прымушаны ў гэтым нумары агранічыць лічбу карэспандэнцыяў з вёскі.

БАЦЬКІ! Складайце школьнаму Інспэктару да 31 сакавіка дэклярацыі аб увядзеньні беларускай выкладовай мовы ў польскай школе, да якой вашы дзеці ходзяць вучыцца.

---

боцехъ“, а так-жа і аб'ясьненьні незразумелых слоў „рускимъ языкомъ“. Затое ў тэксьце „Псалтыра“ асталося нямала аб'ясьненьняў з Пражскага Псалтыра, а некаторыя словы Скарына інакш аб'ясьніў тут, як у Пражскім Псалтыры.

Астальныя часьці „Мал. Подор. Книжицы“, дзеля таго, што прадусім зьяўляюцца малітвенікам, мовай сваей належаць да друкаў стара-славянскіх. Аднак, Скарына і іх прыблізіў да жывой беларускай мовы, уводзячы ў іх многа новых слоў і выражэньняў замест стара-славянскіх.

У гэтых кніжках спатыкаюцца такія словы і выражэньні з беларускай мовы, уведзеныя Скарыной: **„лепши всехъ твареи“. „на тобѣ Христосъ желчи пожиналъ“, „надъ розумъ чоловечии“, „кохания“ „знаидеть“, „въ добротливости“, „лепши“** і г. д.

І так, заснаваўшы друкарства для Беларусі, а так-жа і для ўсяго славянскага ўсходу, даўшы ў рукі Беларусі найпатрэбнейшую ў тыя часы друкаваную кніжку ў мове, прыбліжонай да мовы жывой беларускай,—Скарына, з ведамых больш-менш прычын, нажаль, спыніў сваю вялікую працу на землях беларуска-літоўскіх.

## VII. Ідэі Скарынаўсніх друкаў.

Фр. Скарына, як беларускі патрыёт і чалавек усестаронна асьвячоны, гараваў горам свайго народу і цешыўся яго радасьцяй і шчасьцем. Ён заўсёды ясна бачыў усе недастаткі культурнага жыцьця Беларускага народу, а бачыў іх яшчэ ясьней, калі раўнаваў сучаснае яму жыцьцё Беларусі з жыцьцём заходняй Эўропы.

У Скарынаўскі час выяўлялася на Беларусі нястача ня толькі друкаванай, але і рукапіснай кніжкі ў патрэбнай лічбе. Дык ня дзіва, што чытаць і пісаць умелі ня многія. Такім шчасьліўцам было духавенства, ды агулам заможныя клясы. Народ быў цёмны, няграматны. Ад граматных клясаў да шырокіх народных масаў граматнасьць даставалася дужа нязначна. Толькі тыя, што празначаліся да царкоўнай службы, або што папалі ў асаблівую ласку свайго пана, — навучаліся чытаць, часам, і пісаць.

Навука граматы адбывалася на царкоўна-славянскіх богаслужэбных, ці біблейскіх кніжках.

Служыць пашырэньню граматнасьці і асьветы агулам, а так-жа ўзмацаваньню і паглыбленьню жыцьця маральнага сярод Беларускага народу—вось, галоўная ідэя друкарскай дзеяльнасьці Скарыны. Ідэя гэтая чырвонай ніткай праходзіць праз усе Скарынаўскія кнігі.

У найбольшай пашане ў Беларускага народу была найбольш сярод яго пашыраная кніга Псалтыр. Кніга гэтая найбольш служыла і практычнаму навучаньню граматнасьці. Дык да надрукаваньня яе Скарына ў Празе насамперш і ўзяўся.

Вось, што аб гэтым гавора наш друкар ў прадслоўі да Псалтыра: **„Всяко писание Богомъ вохдненое полѣзно естъ коучению икообличению исправлѣнию иконаказанию правды... Суть бо внеи псалмы якобы сокровище всихъ драгихъ скарбовъ Всякии немощи духовныи ителесныи оуздравляють. Душу исмыслы освѣщають, гневъ и ярость оусмиряють миръ и покой чинять“.**

Між гэтымі ідэямі маральнымі Скарына выразна праводзіць і ідэі прасьветныя, бо далей у тым-жа прадслоўі гэтак кажа: **„Детемъ малымъ початокъ всякое доброе науки дорослымъ помножение внауце“.**

І так друкаваць Псалтыр пакіравалі Скарыну ідэі прасьветна-маральныя.

У прадслоўі да ўсей Біблії Скарына яшчэ ясьней гавора аб прасьветнай ідэі: **„Хощешили,— кажа Скарына,—умети граматику или поруски говорячи Грамоту еже добре чести и мовиши ичить, знайдети Взупольнои Библии Псалтыру чти ее“.**

Але трэба тут адзначыць, што Скарына культурныя ідэі праз свае кніжкі праводзіў ня ў вузкім разуменьні навучаньня граматы, але куды шырэй! У Скарынаўскі час у Эўропе па вышэйшых школах навучалі так званых сямёх свабодных навук, аб якіх мы ўжо ўспаміналі. Вось-жа Скарына пераняўся імі. Праз свае кніжкі ён думаў ня толькі даць Беларускаму народу паняцьце аб гэтых навуках, але нават даць некаторую магчымасьць прысвоіць іх.

І Запраўды, Скарына ў сваіх прадслоўях і пасьлясловях, між іншым, успамінае, што кнігі свае ён празначае для **„научения седми наукъ вызволеныхъ“.**

З Псалтыра, як мы бачылі, можна было вучыцца адной з гэтых сямёх навук: гэта—граматыкі. А іншых навук Скарына радзіць вучыцца з іншых Біблейскіх кніг.

Дзеля навучаньня лёгікі **„онаже учить здоводомъ розознати правду открывды чти книгу Іова, или послания Апостола Павла.**

**„Ащелиже помыслити умети Риторику, еже есть Красномовность, чти книги Соломоновы. Ато суть три навуки словесные“.**

Далей, для навучаньня музыкі Скарына, не назначаючы ніякай асобнай біблейскай кніжкі, радзіць усю Біблію: **„Премножество стиховъ и песнеи светыхъ, повсеи книзе сеи знаидеши“.**

Для навучэньня трох другіх „вызволеныхъ“ навук Скарына радзіць гэткія кнігі Біблії: **„Люболиши естъ умети Аритметику, Еже вократце Ансолие считати учить. Четвертыи книги Моисеевы часто чти. Паклиже имати предъ очима навуку Геометрию, еже поруски сказуется Землемерение, Чти книги Ісуса Наувина. Естъли Астрономии или звездочести, наидеш напочатку книги сее о сотворении солнеца имесяца извездъ, Наидешъ Воисусе Наувине, яко стояло солнеце“.**

І так ідэі друкаў Фр. Скарыны — гэта пашырэньне і паглыбленьне культуры на народным беларускім грунце.

Тут будзе не ад рэчы прыпомніць, што натхненьнем для Скарыны да падобнай дзеяльнасьці бязумоўна паслужыў гуманізм, які буйна ў той час расцьвітаў у Італіі і агулам у Заходняй Эўропе, ды галоўнай ідэяй якога было падыходзіць, як найбліжэй, да жыцьця людзкога, да душы чалавека і раскрываць яе тайніцы і багацьце.

Несьмяротны Дантэ, слаўны Петрарка, Боккачіо і інш. вялікія паэты — патрыёты сонечнай Італіі, прадвесьнікі гуманізму, тварцы несьмяротных літэратурных твораў у жывой народнай мове былі добра ведамы Скарыне і служылі багатымі ўзорамі да яго культурна-прасьветнай дзеяльнасьці.

Канец будзе.

# Дадатковыя практычныя рады

## аб тым, як дамагацца беларускай урадовай школы.

1) У некаторых вёсках бацькі мысьляць, што на кожнае дзіця трэба пісаць асобную дэкларацыю.

**Адказ:** Гэта — памылкова. Кожны бацька (або **маці**—удава ці праўны апякун сірот дзяцей) павінен **напісаць** *толькі* адну дэкларацыю і ў ёй напісаць імёны ўсіх сваіх дзяцей школьнага ўзросту, гэта значыць ад 7 да 14 гадоў.

2) З некаторых вёсак пытаюцца, ці трэба аплачаваць дэкларацыі штэмплёвымі маркамі.

**Адказ:** На дэкларацыях бацькоў аб жаданьні навучаньня сваіх дзяцей у роднай беларускай мове ніякіх штэмплёвых марак прыкладаць ня трэба.

3) Некаторыя вёскі пытаюцца ў нас, ці можна пасылаць дэкларацыі Школьнаму Інспэктару праз пошту.

**Адказ:** Падпісаныя бацькамі (ня дома, а ў гміне, у прысутнасьці войта) і засьведчаныя гмінаю дэкларацыі трэба даць паўнамоцніку, каб ён завёз і аддаў іх інспэктару *асабіста* па сьпіску і атрымаў паквітаваньне інспэктарату на гэтым-жа сьпіску.

4) Як паведамляюць нас, дык у некаторых вёсках, дзе неакуратна дастаюць беларускія газэты, бацькі прабуюць рабіць гэтак: сьпярша сцьвярджаюць свае подпісы на дэкларацыях у солтыса, а пасьля аддаюць дэкларацыі аднаму свайму чалавеку, каб ён аднёс іх на зацьверджаньне войту.

Гэткі спосаб неадпаведны, так рабіць ня можна, бо войт тады не захоча засьведчыць гэткіх дэкларацыяў ды іх і інспэктар можа забракаваць. Абавязкова трэба, каб кожны бацька, напісаўшы дэкларацыю дома, *сам* панёс яе ў гміну і *там* падпісаў яе ў прысутнасьці войта; і войт тады *мусіць* яе засьведчыць. Такая дэкларацыя будзе мець сілу.

Калі дэкларацыі будуць завераны солтысам, ксяндзом, сьвяшчэньнікам, ці вучыцелем, ці кім іншым, або зусім не завераны, дык інспэктар забракуе іх і прападаюць тады марна ўсе клопаты.

Дэкларацыі будуць правамоцны, калі ўласнаручны подпіс бацькі завераны *гмінаю*; можна і ў Міравога Судзьдзі, у Старостве ці ў Натарыюса, але гэтыя апошнія могуць вымагаць плату.

5) На падставе распараджэньня Міністра Ўнутраных Спраў ад 19 лютага 1925 г. *гміна мусіць завяраць подпісы* на дэкларацыях і пры гэтым *зусім бясплатна*.

Калі-б якая гміна адмовілася сьцьвярджаць подпісы на дэкларацыях або вымагала за гэта плату, дык трэба зараз-жа даць аб гэтым тэлеграму ў Беларускі Пасольскі Клюб (Klub Białoruski Warszawa Sejm) і паведаміць аднача сна пісьмом Цэнтральную Беларускую Школьную Раду (Wilno, ul. Wileńska d. 12 m. 6.). Указаць імя і прозьвішча войта.

6) У некаторых гмінах войты адцягваюць сьведчаньне подпісаў і кажуць, каб сяляне раней пайшлі да Школьнага Інспэктара.

Трэба ведаць, што гэткія рады даюць войты наўмысьля, каб сяляне страцілі час і не падалі дэкларацыяў да 31 сакавіка (марца).

Сяляне! Станоўча дамагайцеся, каб войты адразу-ж сьведчылі подпісы, бо яны гэта мусяць рабіць на падставе вышэй памянёнага распараджэньня міністра ад 19/II—1925 г.

7) Калі бацька сам няпісьменны, дык за яго можа падпісацца з яго просьбы і ў *прысутнасьці войта* хто-сь іншы; тады войт павінен сцьвердзіць подпіс ужо таго, хто падпісаўся.

Фора такая: „За непісьменнага (імя і прозьвішча) з яго просьбы ў прысутнасьці войта падпісаўся (такі-то).

8) У некаторых школьных абводах жыхары пры складаньні дэкларацый дамагаюцца, каб ў кожнай вёсцы была адчынена асобная беларуская школа.

Гэта—абмылкова, бо па дэкрэту лічыцца, што ў адным школьным абводзе можа быць толькі адна ўрадовая школа ці то польская, ці то беларуская, або польска-беларуская. Дзеля гэтага трэба, каб усе вёскі аднаго школьнага абводу падавалі Школьнаму Інспэктару дэкларацыі на адну школу — аб ператварэньні істнуючай ужо польскай школы на беларускую, або аб маючай адкрыцца беларускай школе, калі ў адным абводзе няма яшчэ аніякай школы.

Усе вёскі данага абводу могуць падаць свае засьведчаныя дэкларацыі Школьнаму Інспэктару праз аднаго паўнамоцніка, або кожная вёска праз асобнага паўнамоцніка свайго.

9) Трэба памятаць усім бацьком, што, каб школа ў вас з восені стала беларускай, трэба падаць дэкларацыі інспэктару **да 31 сакавіка** (марца) 1925 г. Дык сьпяшайцеся, бо засталося ўжо мала часу!

10) Калі ў якім школьным абводзе ўжо цяпер істнуе беларуская школа, дык падаваць дэкларацый ня трэба.

11) **Калі** ў якіх абводах школьных ці асобных вёскак бракуе друкаваных дэкларацый, дык безадкладна паведамляйце аб гэтым Цэнтр. Белар. Шк. Раду і вам будуць высланы, або пішыце іх самі па ніжэй пададзенай форме:

**Цэнтр. Белар. Шк. Рада.**

# Дэклярацыя.

*Я ніжэй падпісаны (ая)* ........................ *грамадзянін (ка) Польскае Рэчыпаспалітае, беларускае нацыянальнасьці, жыхар* ........................ *гміны* ........................
(імя і прозьвішча) (назоў вескі, места) (назоў гміны)

*павету* ........................ *як бацька — маці — праўны апякун дзіцяці — дзяцей — у школьным веку*
(назоў павету)

*1.* ........................ (імя дзіцяці) *3.* ........................ (імя дзіцяці)

*2* ........................ (імя дзіцяці) *4.* ........................ (імя дзіцяці)

*на падставе артыкулу 3 уставу з 31 ліпня 1924 г., зьмяшчаючага некаторыя пастановы аб арганізацыі школьніцтва (Dz. U. R. P. № 79 poz. 766), жадаю ўвядзеньня ў істнуючую—маючую адкрыцца публічную народную школу ў* ........................ *беларускае выкладовае мовы.*
(назоў вескі, места)

*Дня* ........................ *192* ....... *г.* ........................
(уласнаручны подпіс)

**Да Школьнага Інспэктара**
ў ........................
(назоў места)

УВАГА. **У тэксьце дэклярацыі непатрэбныя словы закрэсьліць.**

# Усячына.

## 9 гадоў пад зямлёй?

„Słowo" падае гэткае даволі фантастычнае і неправеранае апавяданьне.

Недзе пад Вільняй, калі ў 1915 годзе расейскія войскі пакідалі наш край і ўзрывалі склад з вайсковымі запасамі рознае еміны, нейкі салдат быў якраз у склепе, і яго тамака пры выбуху зусім засыпала. Ніхто тады не агледзіўся, што прапаў чалавек.—Толькі цяпер, калі прыступілі да адбудовы зруйнаванага складу, дабраліся і да гэнага склепу. Калі адчынілі склеп, дык тамака аказаўся жывы чалавек, увесь аброшы валасамі, блізу зусім сьляпы і няздольны прамовіць слова. Відаць, у працягу гэных дзевяцёх гадоў ён тамака жыў, ядучы астаўшыяся запасы еміны.

Калі яго вывялі, дык раптоўная перамена аказалася для яго забойчай, і ён цераз тры дні памер, не прамовіўшы слова.

„Słowo" засьцерагаецца, што не падае гэтага за бяспрэчную праўду. Дый запраўды трудна даць веры гэтаму апавяданьню. Хутчэй насоўваецца думка, што мо' нейкі бяздомны чалавек, шукаючы сабе пажывы, ў апошнія часы забраўся ў гэны склеп і ўжо ня мог назад выбрацца.

# Паштовая скрынка.

Атрымана: Ад — Піліпа Крыжаноўскага, Базыля Зыгаліна, Паўла Міськевіча, Язэпа Шыбута, Васіля Сухога, П. Вароны, Мікалая Жыбуртовіча, Мікалая Дунеца, Максіма Зданкевіча, Я. Гапановіча, Пятра Мышко, Уладзімера Каляды, Яна Зэська, Аляксандра Малойла, С. М. Пагуды, К. Жэрка, Дурэйкі, Яна Прэдка, Язэпа Гардзея, кс. Ул. Лявіцкага, Яна Матцюха, Алёны Канановіч, Міхала Макарэвіча, Рамана Волчыка, Мікалая Ліхуты, С. Мазурэка, Лабоцкага, Рыгора Гаврука, Уладыслава Ганчарыка, Уладзімера Крэня, А. Угліка, Сымона Макарэвіча, Міхала Сэрафімовіча, Антона Федаровіча—**па 2 злотых.**

Ад Шахоўскага—**3 зл.**

Ад Антановіча, Аляксандра Цюмчыка, М. Скурко, Аляксандра Цьвікевіча, Казьмера Грынкевіча, Лазарава, Ю. Елінскага, Міхала Новаграна, Я. Станкевіча, Сяргея Атрушкевіча—**па 4 злотых.**

Ад Калістрата Дудко, Аляксандра Бурака, Піліпа Мажэйкі, Ш. Грынбэрга, Ул. Гаўрылюка—**па 5 зл.**

Ад Андрэя Вазьніка, Яна Балаша, Язэпа Тарасэвіча, Л. Баначкоўскай, Пятра Дравіцы, Гардзея Смольскага—**па 6 зл.**

Ад Паўла Тамашчыка, Васіля Шыпілы, Я. Натусэвіча—**па 8 зл.**

Ад Пятра Тымашэвіча—**10 зл.**, Аляксандра Завадзкага—**10 зл. 70 гр.**, Астапа Курыло—**12 зл.**, Тарасейскага—**13 зл.**, Ю. Макуліка — **14 зл.**, Сьцяпана Каваленка—**1 зл. 50 гр.**

## На прэсавы фонд.

Сабраныя па ахвярадаўчаму лісту праз М. Грыгаровіча—**50 зл.**, Сабраные па ахвярадаўчаму лісту праз К. Юрашчыка—**7 зл.**

12/II г. г. атрымана—**3 зл. 80 гр.** бяз подпісу выслаўшага—Хто высылаў, просім паведаміць.

Міхалу Макарэвічу. — Сцэнічнага жарту „Чорт Баба"—у Бел. Кнігарні ўжо няма.



Рэдактар-Выдавец **Антон Пракапеня.**

**Друкарня Н. Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22.